ЯКУБ КОЛАС

# ПЕСЬНІ--ЖАЛЬБЫ

1910 Вільня.

Не пытайце, не прасіце
Сьветлыхъ песень у мяне,
Бо як песьню засьпеваю,
Жаль ўсю душу скалыхне.

Яб сьмеяўся, жартаваў-бы,
Каб вас чуць развесяліць,
Ды на жыцьце як паглянеш,
Серцэ болем зашчыміць.

Нешчасьліва наша доля:
Нам нічога не дала.
Не шукайце кветак ў полі,
Як весна к нам не прыйшла!

* * *

Ўюцца думкі, томяць грудзі—  
Хочуць песьняй стаць лагоднай,  
Мілым дзіцяткам маім.  
Трудна з імі жыць замкнута,  
Ў ночнай хараніць цішы.  
Цесна думкам, цесна бедным,  
Хочуць выліцца з душы.  
Ўюцца думкі смутным роем,  
Хочуць выбіцца на сьвет.  
Лійцесь думкі, сэрца дзеці,  
На паперку кіньце сьлед!

## ДУМКІ.

Ой, вы, думкі, думкі,
Сэрца майго раны!
Ці вы мае дзеці,
Ці вы кім насланы?

Што ж вы закруціліс
Віхрам нада мною,
І німа ніколі
Мне ад вас пакою?

Рад бы я ня думаць
І не знацца з вамі,
Ды без запытаньня
Плывеце вы самі.

Плачэ маё сэрцэ
Хоць без сьлёз, ды горка,
Як пачнецца ваша
Смутная гаворка.

І на маю душу
Леглі вы туманам,
Закруціўшысь роем,
Смутным караванам

Ой, вы мае думкі!
Ці вы кім здраджоны,
Што так не вясёлы,
Што так засмучоны?

Рад бы я ня думаць
І не знацца з вамі,
Толькі-ж проці волі
Плывеце вы самі.

* * *

Рана засмуціліcь
Думкі, сэрца дзеткі,
Рана вы завялі,
Веснавые кветкі!

Ці мароз znячэўку
Вас прыбіў вясною,
Як на сьцежку жыцьця
С простаю душою

Стаў я, поўны веры,
Радасьці і сілы.
Што-ж на вас дыхнуло
Холадам магілы?

Што-ж вы не спакойна
Кружыцесь, як пчолы?
Думкі мае думкі!
Што вы не вясёлы?

Ці краіны роднай
Балоты гнілые
Смуткам вас акрылі,
Думкі маладые?

Ці вас песьня—жальба,
Думкі, ўзгадавала?
Ці людзкое горэ
Ў лесі вас спаткало?

Ці маё так жыцьцё
З дзён малых зладжылось,
Што мая дарога
Смагаю закрылась?

Рана засмуціліс
Думкі маладые,
Рана вы завялі,
Кветкі веснавые!

## ВЕСНА.

Ідзе весна ўжо, дзякуй Богу!
Згінуў сьнег з сырой зямлі;
Папсавала гразь дарогу,
Перэвалы загулі.

Сонцэ грэе, прыпекае;
Лёд на рэчцы затрэшчаў.
Цёплы вецер правевае,
Хмар дажджлівых нам прыгнаў

Вось, і бусел паказаўся,
Гусі дзікіе гудуць,
Шпак на дубе разсьпеваўся,
Жураўлі ужо лятуць.

І зіма, як дым, прапала!
Зелянее луг, паля.
Як ад болю ачуняла
Наша родная зямля!

## ВЯСНОЙ.

З лазурных чыстых небясоў
Прыветна сонейко глядзіць,
Ва ўсе канцы лье блеск лучоў,
Цяпло і сьвет зямлі дарыць.

І клічэ к жыцьцю усё стварэньне
С сваей крыштальнай вышыны,
І будзіць кліч той аддаленьне
Прызывам радасным вясны.

І перша жаваранка Божа
Запела ціха аб вясьне,
Паліўся срэбрам сьпеў прыгожэ
Ў далёкай сіняй вышыне...

Глядзіць прыветна з неба сонцэ,
Якбы матулька на дзяцей,
І лёгка, лёгка так бяз конца,
І бьецца сэрцэ весялей...

## НА ПОЛІ ВЯСНОЙ.

Люблю я прывольле
Шырокіх палёў,
Зялёнае морэ
Ржаных каласоў

І вузкіе ўстужкі
Мужыцкіх палос.
Люблю цябе поле!
Люблю я твоі лё!

І грушы старые,
Што ў жыце шумяць,
Зялёные межы,
Далёкую гладзь;

Люблю я дарогі,
Што леглі між гор;
Ў нізу пад гарою
Ручча разгавор...

Люблю я узгоркі,
Песчаны курган
І сіняго неба, —
Далёкі туман.

Люблю пазіраць я
На поле вясной,
Як ветрык жартлівы
Плыве збажыной.

Калышыцца жыта,
Радамі бяжыць,
Плыве без прэстанку
І ціха шуміць...

Люблю я прывольле
Шырокіх палёў,
Зялёнае морэ
Ржаных калосоў.

## УСХОД СОНЦА.

На усходзе неба грае
Дзіўным блескам жару,
Залацісты сноп купае
Ў полымі пажару.
Чуць-чуць драгне, прыліецца
Чэрвень на усходзі;
Гэта неба усьміхнецца
Людзям і прыродзі.
І ўбірае залатую
Сонейку дарогу,
Паліць сьвечку дарагую
Прэд аўтарам Бога.
Над палямі змрок прарваўся,
Па нізу расплыўся;
Лес туманам заснавўся,
Луч расой абмыўся,
Чыстых хмарак валаконцы
Сталі у кружочэкъ
Вышэй лесу, проці, сонца
І сплялі вяночэк. —
Як жэ добра пахне збожа, —
А кругом спакойна!
Эх, як слаўна, як прыгожа,
Хораша, прыстойна!
І сабрала небо ясна
Блеск усіх калёроў
Стройна, дзіўна, сагалосна,
Як бы песьня хораў.

## НОЧ.

Між палёў шырокіх
Я адзін стаю;
Ахваціла ціша
Ўсю душу маю.
Ночэчка мая ты,
Водблеск глыбіны!
Ты душу чаруеш
Сьпевам ціпшыны.
Многа ў гэтым сьпеві
Оклічоў жывых:
Іх ня зловіш вухам,
Чуеш сэрцам іх.
Ночэчка мая ты,
Ціхі сон вясны!
Колькі зор на небі,
Як блішчаць яны!
Водблескам пажароў
Неба край гарыць —
Там двурогі месяц
Землю сьцеражыць...
Ночэчка мая ты,
Ціхая дума!
Не ахваціш вокам,
Ды і слоў німа
Апісаць абраз твой,
Хараство, спакой,
Толькі ў цябе ўнікнеш
Чуткаю душой.

# МЕСЯЦ.

Ціха месяц адзінокі
Ходзіць ў небе над зямлёю.
Неразгаданы, далёкі,
Што ты бачыш пад сабою?

Бачыш слёзы ты людзкіе,
Як з расою тэй ліюцца,
Як ў тумане думкі злые
Горкім плачэм аддаюцца;

Як бяз долі і бяз хлеба
Працавіты люд наш гнецца...
Кінь ты жальбу нашу ў неба —
Нехай неба ўскалыхнецца!

## ХМАРЫ.

Ціха калосься, схіліўшы галовы
Шэўчуць у межах палёў;
Толькіж ня слухае неба іх мовы—
Жальбы ржаных калосоў.
Сіняе небо ўсё сонцэм заліто;
Полудзень, вар, цішына.
Дожджыка просіць зялёнае жыто,
Хочэ даждясу ярына.
Вот із-за леса далёка, далёка
Хмарка на небо узыйшла;
Цёмная хмарка адна—адзінока
Вышэй і вышэй паплыла.
Ніва заціхла, замерла; здаецца,
Не скалыхнецца яна;
Змучэны колас ані пахінецца,
Поўна надзей цішына.
Думае ніва: „Дожджык пакропіць,
Смагу прагоніць палёў,
Цёмная хмарка краем хоць чэпіць
Дзетак яе — каласоў.
Бедная ніва, знаць, Богам забыта —
Дарма надзея была:
Спаленай нівы жаданьне нязбыто—
Міма хмурынка прайшла.

## ВЕЦЕР.

Ой, ты, вецер неспакойны,
Дзьмеш ты без устанку!
Адну песьню нам сьпеваеш,
Адну кажэш байку.

То заплачэш сіратою
Над убогай хатай,
То застогнеш, як над нівай
Той мужык-араты;

То засьвішчэш за вуглямі,
Жалям разліешся,
То сярдзіта ў дзьверы стукнеш,
Злосна засьмяешся!..

Ой, ты, вецер непрытульны,
Родны брат мой ў долі:
Раскідаем сьмех і сьлёзы
Мы у чыстым полі!

## АДЛЁТ ЖУРАЎЛЁЎ.

Белые валокны
Сьцелюцца над долам.
Не сьпеваюць пташкі,
Сьціхнуў леса шолам.

Сьцелюцца валокны,
Уецца павуціна—
Блізка, блізка восень,
Сумная часіна.

Зажурыцца небо,
Схаванае ў хмары,
І агорнуць сэрцэ
Горкі жаль і мары.

Стагі лугавые
Вежамі жаўцеюць,
Галінка ня дрогне,
Ветрыкі ня веюць.

Ціха, ціха ў небі,
Ў гэтым божым моры...
Ша! што то за крыкі
Чуюцца ў прасторы?

Жаласные крыкі
Льюцца над зямлёю,
І чэпаюць сэрцэ
Жалям і сьлязою.—

Ў безгранічным небі
Роўненькім шнурочкам
Жураўлі на вырай.
Цягнуць над лясочкам.

Меншыцца шнурочэк,
У паднебьі тае;
Вось ён чуць чарнее,
З віду прападае.

І стаіш ты, нудна,
Доўга пазіраеш,
Якбы што згубіў ты,
Што і сам не знаеш,

Так у час разстаньня
С тым хто сэрцу мілы,
Пазіраеш доўга
Нудны і пастылы.

Пазіраеш доўга
На дарожку тую,
Што у даль заносіць
Душу дарагую.

## ВОСЕННЫ ДОЖДЖ.

Сыпяцца кроплі часта і дробна,
Ціха па стрэсе бубняць;
Смутак наводзіць шум іх жалобны,
Хочэцца плакаць, стагнаць.

Цёмная ночка, ночка глухая
Цягнецца доўга як, год.
Вецер даждж лівы панура сьпевае
Жаласна сьвішчэ праз плот.

Круцяцца думкі, сон разганяюць,
Душу туманяць яны,
Волю далёкую мне ўспамінаюць,
Дні маладые вясны.

Сыпяцца кроплі часта і дробна,
Нудна у вокны бубняць.
Смутна іх песьня, плачу падобна,
Слёзы ў тэй песьні чуваць!

*
*   *

Скора ў полі забушуе,
Песьню сівер запяе,
Ўсе дарожкі зараўнуе,
Гурбы сьнегу нанясе.

Ўсё змешаецца ў тумане,
Ў белым попелі сьнягоў.
Сумна вецер плакаць стане
Над будынкам мужыкоў.

Я-ж люблю той сьвіст у полі,
Як вакол усё дрыжыць —
На спатканьне песьням волі
Дух мой рвецца і ляціць.

## ВОСЕНЬ.

Пуста ў лузе. Толькі стогі
Парыжэўшые стаяць,
Ды шпакі каля дарогі
Цэлы дзень, адно, крычаць.

Грэчка зжата. Гола ў полі.
Жыта зьвезена даўно.
Толькі плаваюць на волі
Кучы хмар, як валакно.

Дожджык сее без прэстанку;
Вецер сьвішчэ так, як зьвер...
Колькі лужын каля ганку!
А гразі, гразі цяпер!..

Ссохлі травы. Усё павяла.
Слоць, плюхота, холад, цьма.
Эх, скарэй бы закрывала
Зямлю чорную зіма!

## ЗІМА.

Белым сьнегам заметае
Вецер чорные паля;
Белу опратку ўздевае
Наша родная зямля.

Мяккі сьнег летае пухам
І канца яму німа,
І нясе сярдзітым духам,
Дзікім сіверам зіма.

Зачыняйце шчыльна хату,
Каб ня дзьмелі халады,
На вакно пляціце мату,
Каб не клаў мароз сьляды.

Даставайце з вышак сані —
Гайда сьцежкі праціраць
І па белым акіяні
У доўж і ў поперак гуляць!

Ды кладзіце рукавіцы —
Гдзе з марозам жартаваць.
Рады белай мы зіміцы,
Рады з ею ваеваць!

Гэй, вы коні, гэй малые!
Што заснулі? весялей!
Гэй, у скочку, залатые!
Варушіцеся жывей!

* * *

Пташкі ў лесе шчэбеталі
Стукаў дзяцель і жаўна
І пра шчасьце нам казалі,
І ў душы была весна...

А ў вясёлы вечэр мая
Салавей ў гаю сьвістаў...
Ой, пара ты залатая!
Хто цябе не ўспамінаў?

А у небі, ў Божым полі,
Без сьледа, за край зямлі,
Якбы думкі сьветлай долі,
Хмаркі белые плылі.

Ўсё пра шчасьце нам казало,
Забаўляла, як дзяцей.
Дзе ты, шчасьце, ты прапало?
У сэрцы—цень мінуўшых дней!

## ВЕСНА.

Весна, весна
Жаданая!
Ты прыйдзёш зноў,
Ты вернешся.

Вясёлы сьпеў,
Прыветлівы
Руччоў ў палёх
Пачуецца.

Ачнецца гай
І с песьнямі
Ў зялёны ліст
Адзенецца.

Напоўніць лес
Птушачы сьвіст,
Травою луг
Акрыецца.

А с полудня
З маланкаю
Хмурыначка
Націснецца;

І першы гром,
Як музыка,
Таёмна так
Пракоціцца.

І грудзь зямлі
Ускалыхнецца,
Дажджом яна
Абмыецца;

Ў прыродзі ўсё
Народзіцца,
І моладасьць,
Ей вернецца;

Ды толькі мне
Ня вернешся,
Ты моладасьць!..
Ня вернешпся...

Весна, весна
Жаданая!
Ты вернешся;
Ты вернешся!..

## Я НЕ ЗНАЮ...

Я не знаю, чым мне дораг
Від палёў благенькіх,
Нудны воклік ў родных горах,—
Вербоў рад крывенькіх.

Лесу гоман, гул нястройны,
Шум лазы ў балоці,
І пудлівы, неспакойны
Шэлест у чароці.

Маё сэрца, маё вока
Цягне хвоя тая,
Што у лузе адзінока
Сохне, замірае,

Дуб жарстлівы, дуб высокі,
Колісь поўны сілы,
І той крыжык адзінокі —,
Вартаўнік магілы,

Дзе так сумна ветры веюць,
Точаць дол пешчаны;
Дзе чыесь-то косьці тлеюць
Чый-то прах схаваны...

Я не знаю, я не знаю,
Чым я так прыкуты
Да тваіх, мой родны краю,
Абразоў пакуты.

## НАШЭ СЯЛО.

Між узгоркоў над рэкою
Выглядае сіратою
Нашэ беднае сяло:
Убраў стрэхі мох калматы,
Пакрывіліся ўсё хаты,
Як-бы ў дол яно ўвайшло.

Ў адзін плех зліліcь будынкі;
Ў шыбы ўсаджэны лучынкі,
Ці анучак цэлы жмут.
Спарахнела наша школа,
Згніў паркан ўвесь навакола,
Школка згорбілась, як склют.

З боку вербачкі крывые,
Як кабеціны старые,
Нуднай кучкаю стаяць.
Нёман ногі ім змывае;
Вецер злосна калыхае,
Лісьця жаласна шумяць.

На прыгорку ў аддаленьні,
Насып, крушнямі каменьня, —
Сумна крыжыкі стаяць.
А ў нізу, пад іх нагамі,
Спаласканые сьлезамі,
Косьці родные ляжаць.

Плачуць ветры над магілай;
С песьняй нуднай і пастылай
Пралетаюць яны ў даль.
Як успомніш кут свой родны,
Непрытульны і халодны,
Сціснье сэрцэ горкі жаль.

## НАШ РОДНЫ КРАЙ.

Край наш бедны, край наш родны!
Гразь, балота ды пясок...
Чуць дзе крыху луг прыгодны...
Хвойнік, мох ды верасок.
А туманы, як пялёнка,
Засьцілаюць лес і гай.
Ой, ты, бедная старонка!
Ой, забыты Богам край!
Нашэ поле дрэнна родзіць;
Бедна тут жыве народ.
У гразі ён, бедны, ходзіць,
А працуе—льецца пот.
Пазіраюць сумна вёскі,
Глянеш — сэрцэ забаліць.
На дварэ — паленьня, цёскі,
Куча сьметніку ляжыць.
Крыж хваёвы пры дарозе,
Кучка топалёў сухіх...
Сцішна, нудна, як ў вастрозе,
Як на могілках якіх.
А як песьня панясецца,
Колькі ў песні той нуды!
Уцекаў бы, бег, здаецца,
Сам ня ведяеш куды.
Край наш родны! Бедно поле!
Ты глядзіш, як сірата.
Сумны ты, як наша доля,
Як ты, наша цемната!

## ВЁСКА.

Цесна збілісь нашы хаты,
Як авечкі ў летні жар;
Для агню тут корм багаты,
Як ўпадзе сюды пажар.
  Хлеўчык, погрэб і гуменцы
  Пад адзін зліліся плех;
  Трэскі ўсаджэны ў вакенцы,
  Замеж шкла- радняны мех.
Загародка пад акнамі,
Блісьне кветка дзе-не-дзе.
Зельлем глушыцца, травамі
Мак, цыбулька на градзе.
  Зелянеюць два-тры клёны,
  Гляне ліпа дзе з-за хат;
  Дзе-не-дзе садок зялёны,
  Нізкіх вішэнь чахлы рад.
Відны сані пад стрэхою,
Колы, сошка, барана,
Кол с хваёваю мятлою,
Убіты ў дол каля вакна.
  Многа тут гразі ў нягоду,
  Многа пылу ў летні жар!
  Тут дабра ня бачыць з роду,
  Тут марнее гаспадар...
Тут нуда жыве людзкая,
Прыпынілось горэ тут;
Сьмерць дзяцей, хвароба злая
Тут знайшлі прытульны кут!

*
* *

Вось старая хацінка,
Садзік невялічкі,
Малады алешнік
Па краёх крынічкі.

С краю лес высокі;
Тут-жэ, каля хаты,
Дзьве старые вербы,
Дуб каржакаваты.

Ў перэлівах кветак
Зьяе луг зялёны,
Луг шырокі, пышны,
Як-бы цар ў кароне.

Далей, за лугамі
Легло поле кругам,
Зрэзано сахамі,
Баранамі, плугам.

Зелянеюць межы,
Вузкіе, як стужкі,
Дзе-не-дзе чарнеюць
Меж загоноў грушкі...

## МУЖЫЧАЯ НІВА.

На мужычым полі
Цягнецца палоска...
Зельле яе глушыць,
Абвіла бярозка,
    Ветрам паламала,
    Дождҗыкам прыбіла;
    Навальніца з градам
    Каласы скруціла.
Сіняя валошка,
Травы разрасьліся,
Палыны на межах
Густа упляліся.
    Ой, мужыча ніва!
    Ты — сіротка ў полі:
    Німа табе шчасьця,
    Німа табе долі!
Ой, ты, ніва наша!
Ці ж ты не арана?
Ці-ж мужычым потам
Ты не палівана?
    Ці то кепска сонцэ
    Сьвеціць над табою,
    Што зрасла ты густа
    Дзікаю травою?
Заплылі вадою
Ўсе тваe разоры,
Пакапалі мышы
Па загонах норы.

Птушкі ў Божым небі
Плачуць над табою,
Што зрасла ты, ніва,
Палыном, травою...
На мужычай ніве
Каласы пустые...
Ці ня шкодны полю
Сьлёзы вы людзкіе?!

## ХЛЕБАРОБ.

Цёплы вечэр. Ціха ўсюды;
На заходзе сонцэ.
Хмаркі захад чуць заслалі
Тонкім валаконцэм.
Зьяюць хмаркі ў пазалоці,
Як агнём палаюць.
За гарою ціха-ціха
Песьні заміраюць.
Хлебароб—мужык вёсковы—
Вось па межах ходзіць;
Выйшоў ў поле, каб пабачыць,
Як бог Бог жыта родзіць.
Твар сур'ёзны хлебароба,
Важны, задуменны;
Ходзіць, рукі залажыўшы
За паяс рэменны.
Як бы градкі, йдуць радамі
Вузкіе загоны.
Апранула зямля - матка
Кажушок зялёны.
Густа жытцо маладое
Поле ўсё пакрыла,
Расьце добра і прыгожа,
Ажно глянуць міла.

Каласочэк раскрывае
Клетачку зялёну;
Дзе-не-дзе яго ўжо вусік
Блісьне па загону.
Хлебароб глядзіць з уцехай,
Ходзіць ў Божым дару...
Так ні поп, ні ксёндз ня ходзіць
Пры сьвятым алтару.

# ЖНІВО.

*(Весковым працоўніцам).*

Рэдкае збожэ, травы палавіна;
Колас ня гнецца зярном да зямлі.
Знаць, нешчасьліва была то часіна,
Як кідалі зерне сяўцы па ральі.

Выйшлі на поле, вось, жнеі с серпамі
У лапцях лазовых, а хто без лапцей, —
Ніва пустымі шуміць каласамі,
Ніва ня цешыць жаночых вачэй!

Цяжка ўздыхнуўшы, збаны пастаўлялі,
Клункі на межы паклалі жнеі;
Бабы старые свой твар пражэгналі,
Ціха за працу ўзяліся дзяўкі.

Горача ў полі! Эх, жар дакучае,
Праца марудна, бяз конца цяжка!..
Сьпіну і плечы ім боль адбірае,
Аж дзервянее у жнеек рука.

Збэрсана жыта чэпляецца колас...
Жменя нажата, разгнецца жнея,
Жыта палажыць на скручэны пояс;
Цяжкая, жнейка, работа твая!

Ціха на полі ў палудзень гарачы!
Хоць бы гдзе кусьціка рэдкая цень.
Толькі ў калысцы плач чуеш дзіцячы'
Нудна над вухам зьвініць авадзень...

## ЖЫТНІ КОЛАС.

На саломцы тонкай
У траве глухой
Сьпее—дасьпевае
Колас сіратой.
        Ці то птушка Божа
        Кінула зярно,
        Ці то заняслося
        Бурэю яно,
Ці з дзіравай торбы
Конік чый згубіў,
На чужую скібу
Зерне пасадзіў?—
        Небо яго знае,
        Як сюды папаў,
        Хто ад роднай нівы
        Зерне адарваў...
Сушыць яго сонцэ,
Клоніць вецярок;
Ные сірацінка,
Плачэ каласок,
        Плачэ, што нема с кім
        Думку раздяліць,
        Нудную галоўку
        Ціха прыхіліць
Да другой галоўкі,
Да дрогіх грудзей,
Без канца шэптацца
Ў цішыне начэй.

Апусьціўшы нізка
Тонкі паясок,
Ные сірацінка,
Плачэ каласок;
Плачэ, што дарэмна
Вяне у глушы,
Што нігдзе ня згледзіш
Роднае душы;
Што яго зерняткі
Птушкі падзяўбуць,
Белую саломку
Ветры разнясуць.
І, падняўшы ўгору
Стройны валасок,
Ные сіраціна,
Плачэ каласок.

## ВЯРБІНА.

Над вадою адзінютка
Пахілілася вярбіна;
Ные, бедная, ціхутка.
Ці-ж то ёсць у ёй кручына?
Мые Нёман ёй кареньня,
І дурэе вецер з ёю,
А пад нізам чарадою
Ціснуць ногі ёй каменьня.

Ёсьць кручына не малая,
І шуміць яна так нудна,
Бо ёй доля не спрыяе,
Бо расьці ў каменьнях трудна...
Так і ты, народ наш бедны,
Як вярбіна, проці волі,
Доўга носіш пояс мадны,
Гнешся ты, як крыж у полі!

## ПАЛЕССКІЕ АБРАЗЫ.

Цёмны бор, кусты, балоты,
Кучы лоз і дубняку,
Рэчкі, купіны, чароты,
Морэ траў і хмызняку;
    Мосьцік, зложэны з бярвеньнёў,
    Брод і грэбля кожны крок,
    На дарозі рад карэньнёў,
    Крыж, пахілены на бок;
Пералескі, лес, палянка,
Старасьвецкі дуб з жарлом,
Хвоя—веліч на кургане
С чорным буславым гняздом...
    Гразь, пяскі; лужок зялёны;
    Шум крынічкі с-пад карча,
    Шэлест лісьцёў нескончоны,
    Крык у небі крумкача;
Вербы, груша—сіраціна,
Нізкарослы цёмны гай...
Гэта ты, балот краіна!
Гэта ты, палесскі край!

## ДАРОГА.

Меж палёў шырокіх,
Як зьмея якая,
Цягнецца дарога
Вузкая, крывая.

На абапол грушы
Разрасьліся ў полі;
Нізенькі яловец
Чахне, як ў няволі.

Тут мужык працуе,
Чорны ўвесь, як сажа.
Крыж на перакрэстку
Аб пакуце кажэ.

Коціцца цялежка,
Б'ецца аб каменьня;
Гаратай на поле
Глядзіць ў задуменьні.

Ой, дарога — сьцежка,
Вузкая, крывая!
І ты, жыцьцё нашэ,
Доля, ты, такая!

## НА ГАСЬЦІНЦЫ.

Чыстым інеем пакрыты
На гасьцінцы берэзьняк,
Космы густа ім абвіты;
Ў белым сьнезе маладняк.
    Сьвішчуць сані на марозе,
    Коні рвуцца і хрыпяць,
    Крык і гоман на дарозе,
    Бомы стогнуць і зьвіняць.
Скверыць холад. Пабялелі
Вусы, сьвітка вазака,
Толькі шчокі счырванелі
Ад марозу ў мужыка.
    Перад сьвятам заработкі,
    А дарога, як сьлеза!..
    Толькі бухаюць калодкі,
    Толькі сьвіст ад палаза!

## ЧУГУНКА.

У два рады меж палёў
Стройна рэйкі ляглі,
Рэжуць нетру лясоў,
Точаць грудзі зямлі;
    Гдзе стрэлою лецяць,
    А гдзе дужкай бягуць
    Цераз горы і гладзь,
    Сьмела рэчкі сякуць...
Эх, і быстры-ж той гон!
Толькі пыхае дым,
За вагонам вагон
Мчыцца зьмеем ліхім!
    Мчыцца ў ноч і у дзень,
    Толькі поле дрыжыць, —
    Лёгканогі алень,
    Так арол не ляціць!

## МОГІЛКІ.

Круглае поле. Горы каменьня;
Лес па краёх, як сьцена.
Ціха усюды. Нудна на сэрцы...
Птушка ня крыкне нідзе ні адна.

Могілкі ў полі адны --адзінюткі.
Праслы гнілые на землю ляглі.
Крыж пахінуўся, як кветка у боры...
Многа іх, многа ляжыць на зямлі!

Кучка бярозак, верба ды хвоінка...
Вецер развеяў іх, дождж спаласкаў...
Вось дзе ад гора мужык атпачыне,
Вось дзе ён думкі і сьлёзы схаваў!

## РОДНЫЕ ПЕСЬНІ.

Вісьне скарга уздоўж Нёмна,
Беларусі сына...
Як ты бедна, як ты цёмна,
Родная краіна!
Збіты ў кучы твае вёскі,
Ў зямлю стрэхі ўходзяць;
Нуднай песьні адгалоскі
Лес, курганы родзяць.
Крыж хваёвы, знак пакуты,
Тут і там чарнее:
Даль паўнютка ціхай смуты;
Жаль на душу вее!
Ўсё ў табе, мой родны краю.
Усё спавіто горэм:
І той вецер, што дзьме з гаю,
Што шуміць над борам;
Тая песьня, што на полі
Жнеі засьпеваюць.
Тые думкі, што да болю
Сэрцэ калыхаюць...
Ў маім сэрцы горэ гэта
Одгалос знаходзіць;
Сэрцэ-ж жалем абагрэто
Песьні смутку родзіць.
Нехай плачэм ў сіняй далі
Песьня разліецца,
Каб ўсе людзі ў сьвеце знали.
Як нам тут жывецца.

## МУЖЫЧАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

Божэ, Божэ, твая воля!
(Хоць і можэ гэта грэх):
Што за жыцьце, што за доля,—
Проста плач бярэ і сьмех!
    Ў хаце чорна, непрыбрана,
    Парасяты пад палком,
    Павуцінаю заткана
    Столь і кут над абразом.
Дзеці ўстануць пасьля ночы —
Крык, хоць вушы затыкай;
Дым с камінку лезе ў вочы,
Дзед сярдуе—ае-яй!
    А як часам гдзе збярэцца
    Ў хаце с пару шчэ жанок, —
    Сварка тая не звядзецца,
    З дзень грызуцца за гаршчок!
Ў спор ўмешаюцца мушчыны,
Ну і пойдзе ла—та—та!
Паўплетаюцца ў чупрыны,
Рэдка стане барада...
    Так ўвесь век перэтаўчэшся,
    І німа таго дабра:
    Покі жыць ты прыбярэшся —
    Уміраць ужо пара.

## ПЕСЬНЯ НАД КАЛЫСКАЙ.

Аа—аа, мой сынок!
Аа—аа, мілы!
Не крычы, не плач: дарэмна
Ты патраціш сілы.
А без сілы, мой сынок,
Жыць на сьвеці трудна...
Ой, ты, вецер, не шумі,
Не сьпевай так нудна!
Спаць Міхаську не даеш...
Сьпі, мой сын маленькі!
Я цябе пакалышу —
Ай, люлі-люленькі!
Што цябе чэкае, сын?
Што твая за доля?
Мо, як бацька, будеш ліць
Пот ў чужое поле?
Будзеш ў летку ўсё хадзіць
На плыты, на згоны.
С Коўна матцы прывязеш
Хоць гарсэт чырвоны.
А мо пойдзеш ў школу ты,
Будзеш чэлавекам:
Без вучэньня кепска жыць
Гэтым трудным векам.

Кінеш матку, па чужых
Ты па людзях пойдзеш
І на шчасьце пападзеш,
Долю сваю знойдзеш?
Ўспомніш матку ты сваю,
Як цябе люляла,
Як табе у ноч не раз
Песьні я сьпявала.
І гасьцінцу мне прышлеш...
От я буду рада!
Дазайдросьціць вось тагды
Мне уся грамада!

Аа, аа, мой сынок!
Люлі-люлі, мілы!
Ой, не плач ты, не крычы,
Набірайся сілы...

## ПЕРШЫ ЗАРАБОТАК.

### 1 Дома.

—„Ну, Алесь, брат,“—за обедам
Кажэ бацька сыну: —
„Годзі бегаць дармаедам,
Красьці садавіну,
Таптаць сьцежкі ў агароды,
Рэзацца па хаце...
Ты ўжо ўходзіш, браце ў годы —
Колькі яму, маці?“ —
Роднай матцы сэрцэ, ў грудзі
Злёгка затраслося:
„Ці ня хочэ аддаць ў людзі?“
У думках праняслося.
Сам Алесь васьмігадовы
Як ліст скалануўся,
Бо у бацькавай прамові
Страх яму пачуўся.
Апусьціў ён нізка вочкі,
Глыбей ў кут падаўся.
—„Штож ты сціхнуў, як у прочкі
Ты ад нас сабраўся?“—
—„Дай хоць з'есьці, адчапіся!
Вось прыстаў к дзіцяці?
Еш, Алеська, не журыся“ —
Не ўцярпела маці: —
„Пойме гутарку якую,
Абы за хлеб ўзяўся... —
—„Нехай есць, ціж я шкадую?“ —

Бацька адазваўся,—
„Еш, Алесь, чаго надзьмуўся
Ты, як мыш на крупы?
Ці ад ночы не ачнуўся?
Расплюшч свае лупы!
Глядзі ў вочы мне! сьмялее!
Во, так! малайчына!
Еш, бо крупнік адубее“ —
Кажэ ён да сына.
Паабедалі з бядою,
Спаражнілі місы;
Абцёр бацька вус рукою,
Твар і лоб свой лысы.
—„Ну, дык вось што,--чуеш, хлопчэ?
Годзі так бадзяцца —
Нехай качка цябе стопчэ —
Трэба чым заняцца!
Згоджэн пасьвіць ты на лета
Ў Кургану каровы;
Шэсць рублёў дадуць за гэта
І халацік новы.“—
--„Ой, нехай бы пабыў дома!“—
Заступілась матка:
„Ну, куды ён! мал, вядома,—
Рана пасьвіць стадка.
Толькі высахне у лыка,
Нябось, пасьвіць — мука!“—
—„Эт! патрапіць: невяліка
Пастуха навука!
Будзеш пасьвіць?“—Тут у сына

Бацька запытаўся.
—„Ото дзіво!“—„Малайчына!
Я не ашукаўся:
Ты ў мяне хлапец рахманы,
Вот люблю за гэта!
Працаваць вучыся зрана,
Ў маладые лета.“—

2. Перэд выпраўкай.

У Алеся думак многа,
Ды ўсё думкі новы;
Твар сур'ёзны, як старога,
Нахмурылісь бровы.
Кінуў ён гульню с сябрамі,—
Трэба дбаць на хату.
Памагаць ён будзе мамі,
Бацьцы, сёстрам, брату.
Цяпер бацька адзін б'ецца
З ранку аж да ночы,
Так працуе, што пот льецца,
Лезуць на лоб вочы.
Гэтак сама адна маці —
Праўда, што сьціпная, —
Робіць ў полі і у хаце,
Корміць, абмывае.
Мала з дзевак запамога —
Дробеза ўсё, дзеці!
Сам ён толькі, дзякуй Богу,
Зможэ пражыць ў сьвеце
Без падмогі, сам сабою,—
Ён—дзяцюк, хлапчына:

Носіць ён вядро з вадою,
Як стары мужчына!
Потым думкі непрыкметна
Далей залетаюць,
Чужаніцы непрыветна
С кургаНоў мігаюць.
Матка страхоў наказала
Пра жыцьцё с чужымі
І Алеся навучала,
Як ужыцца з імі:
— „Трэба змоўкнуць, хоць часамі
Скрыўдзяць цябе, ўсчуюць,
Хоць нядобрымі славамі
Злосна пажартуюць.
Будзь паслушны і цярплівы,
Не лазь ў агароды,
Не марнуй ты людзям нівы,
Не рабі ім шкоды...“
Адным словам, страх нагнала
На Алеся матка.
І так міла яму стала
Родная іх хатка!
Ды нічога не парадзіш,
Калі служба трэба,
Калі беднасць, як паглядзіш,
Сама просіць хлеба.
Дый Курганы не за морэм —
Восем вёрст ад дома,
Над рэкою, за тым борам,—
Мейсцэ ўсё знаёма.

Так хлапчынка разважае,
З думкамі гамоніць,
То надзеей дух ўздымае,
То трывогу гоніць...
У вузельчык, вось, увязан
Скарб яго убогі;
Станік тонкі падпярэзан, —
Жджэ Алесь дарогі.
Моцна сэрцэ забалело
Як ён выйшоў с хаты,
Але плакаць не пасьмело,
Бо йшоў з боку тата.

### 3. У чужых.

—„Добрыдзень вам, ягомосьці!" —
—„Добрыдзень! Седайце."
—„Ну, вось я прывёў вам госьця;
Мал ён, — выбачайце!" —
—„Э, нічога! акрыяе,
Дый ён хлопец слушны:
Гадкоў з восем „мусіць, мае?,
—„Восем ў Дзень Задушны".
У куточку прыхіліўся
Ціха каля лавы
І на ўсё Алесь дзівіўся,
Пазіраў цікава.
Глянуў ў покуць ён украдкам
На таго сьвятога,
Што напісан быў з ягняткам

І глядзеў так строга.
Ён зірнуў на Мікалая,
І на Юр'я з зьмеем,
На сьвятых, што і ня знае
І назваць ня ўмее.
За сталом былі мужчыны
І стары меж імі,
У каторага маршчыны
Збегліся пад вачыма;
Чэрэп гладкі, безвалосы,
Голы, як калена;
Вусы бытцам шлі із носа,
Белые, як пена.
Страшным дзед той паказаўся,—
Як бы чорт з балота.
„Мусіць, с чортам ён спазнаўся,"—
Думае блазнота
Пазіралі дзеці скрыва
С печы і с прымурка
На Алеся, як на дзіва,
Ці якога турка.
А тымчасам стол убралі
Бутля і дзьве чаркі;
Ў печы весела пішчалі
Ў скавародцы скваркі.
Селі піць барыш мушчыны,
Дзед, падняўшы чарку,
Кажэ: „Дай Бог толк хлапчыны
Нам у гаспадарку.

Ходзь, Алеська, сюды, брацік!
Бліжэй бліжэй, браце!
Распраніся, скінь халацік,
Будзь, як свой, у хаце!“ —
Падыйшла і гаспадыня,
Жвавая кабетка:
—„Павесь шапачку, мой сыне;
З'еш от скварку, дзетка.
Будзеш дужшы, небажатко,
Пасілкуйся крышку!“ —
І падносіць хлапчэнятку
Гарэлкі ў келішку.
Алесь круціць галавою —
Піць ён не бярэцца;
Зграбшы скварку пяцернёю,
Есць—нос ў дугу гнецца...
—„Ну, сынок, служы здаровы,
Даглядай скацінку.
Будзеш дома на Пакровы,
Не нудзіся, сынку!“ —
Развітаўся бацька з імі
І пайшоў да дому.
Сумна стала меж чужымі
Хлопчыку малому.

### 4. Ня вытрымаў.

Моцна хлопец занудзіўся
Па брату, па мамі,
Як-бы сьвет тут зачыніўся
Ў гэтай нуднай ямі.

Ўсё тут дзіка, нецікава,
Як ў яловым лесе;
Кожны вугал неласкава
Глянуў на Алеся.
Ўсё ня гэтак, як там, дома:
Лава, печ старая,
Кожна рэч тут незнаёма,
Для яго чужая.
Ўсё: качэргі і ваконцы—
На нуду наводзіць.
І тут нават не так сонцэ,
Як там, дома, ўсходзіць,
Дый і людзі не такіе —
Накшая гаворка,
І алешнікі ня тые,
Луг, паля, прыгоркі...
Выйшоў с хаты, прытуліўся
Ён пад грушэй ў полі
І так моцна засмуціўся,
Бытцам у няволі.
На дарожку пазірае,
Што вядзе да хаты,
Што, як стужка, агібае
Цёмны лес кашлаты.
І так мілы яму сталі
Родные палеткі,
Лес, што нікне ў сіней далі,
Ўзгоркі, межы, кветкі,
Хаты, гумны, варывенькі,

Цэрква на грудочку...
Эх, як міло, весяленько
Ў родным вуголучку!
А тут—хата, як адрына,
Як хлеў,—сьвету мала.
І надумаўся хлапчына
Даць ад гэтуль драла.
Многа думаў так і гэтак;
Не бярэ нічога!
А с палетка на палетак
Скачэ, йдзе дарога!..
Устаў на заўтра ён ранютка
Да усходу сонца,
Чуць што глянуў сьвет ціхутка
Ў хату праз ваконцэ.
Баязьліва азірнуўся,
Глянуў на палаці,
Гдзе дзед страшны развярнуўся,—
Але ціха ў хаце.
Згроб свой клунак ён пад паху—
Загадзя сабраўся—
Асьцярожна, поўны страху,
Да дзьвярэй падкраўся.
Дзьверцы ціха атчыніліс,
Выйшоў ён у сені;
Сэрцэ моцна калацілась
І трасьліс калені.
Потым думкі непрыкметна
Далей залетаюць,

Тут кулём ён як ліс ў норы,
За хлевы, ў задворкі.
Уплыў месяц ўжо за горы,
Чуць мігалі зоркі.
Вось, Алесь прычхаў да дому,
Стаў на прыгуменьні.
Страшна ў хату йці малому,
Многа ў ім сумленьня!
Што рабіць тут? не згадае.
Мо' назад вярнуцца?
Плачэ хлопец, уздыхае,
Сьлёзы так і льюцца.
Выйшла матка, плач пачула,
Бачыць—іх служака!
Матку жаласць агарнула —
Шкода небарака!
—„Што-ж ты плачэш? хадзі ў хату;
Не плач, успакойся!“
—„Калі ж, мамка, баюсь таты“...
—„Ня з'есць ён, ня бойся!“ —
Бацька ўстаў і абуваўся;--
Глядзь—Алесь у хаце!
Бацька скрыва засьмеяўся:
—„Ты ўжо дома, браце?“—
А Алесь дрыжыць ўсім целам,
Як грэшнік той страшны,
Думаў ён, што ў сьвеце цэлым
Самы ён несчасны.
Апусьціў сваю галоўку,
Клуначэк трымае,

Кулачком у ціхамоўку
Вочкі уцірае.
—„І што гэта за работа?
Адурэў ты, Грышка:
Ён—зусім дзіця, блазнота,
Зелен, як пурышка.
Гдзе яму служыць, дзіцяці?
Куды ён? націна!“—
Стала бацьку чысьціць маці
І крычаць за сына.
—„Мне-б тут трэба раскрычацца,
Розум твой жаночы!
Брыдка будзе паказацца,
Тым людзям у вочы...—
Ах, лайдак, пястун пракляты,
Лезь на ручку к мамі!“—
Плюнуў бацька, выйшоў с хаты,
Стукнуўшы дзьверамі.

## У школку.

Ярка на камінку
Смольны корч палае;
Бацька на колодцы
Лапаць выплетае.

Латае халацік
На услоне матка;
Ў школку заўтра пойдзе,
Іх сынок Ігнатка.

Сын васьмігадовы
Корчык падкладае,
З бацькавай работы
Вочэк не спушчае.

Сьветлая галоўка
Мысьлямі занята;
Многа ўсякіх думак
У вачах Ігната!

—„Ну, Ігнат, глядзі, брат,
Не дурэй, вучыся!
Годзі жыць бяз дзела —
За буквар вазьміся.

Будзь старанным, сынку,
Станеш чэлавекам,
Будзеш ты чытаць нам—
Цёмным неумекам,

Што у кнігах пішуць,
Што мы ў сьвеце значым.
Бо мы самі цёмны,
Сьвету мы ня ўбачым.
Слухай, што настаўнік
Гаварыць там будзе
Пра навуку, кнігі
І аб цёмным людзе...
А старанным будзеш,
Да навукі здатны,
Я прадам кароўку
І кажух астатны; —
Далей йдзі ў навуку!
Толькі, брат, вучыся...
Дык глядзі, сыночэк,
Шчырэнька вазьміся!
На гульню пустую
Плюнь, махні рукою,
Каб і я і маці
Цешылісь табою".—
На казаньне бацькі
Атказаў Ігнатка:
—„Буду я вучыцца,
Як ты кажэш, татка!"
А як спаць улёгся,
Думкі ўзварушылісь,
І ўсю ноч Ігнасю
Школа, кнігі сьнілісь.

## ПЛЫТНІКІ.

Клунак за плечамі,
Кій ў руках хваёвы,—
Валіць чарадамі
Бедны люд вёсковы.

Босые іх ногі,
Твар іх загарэлы;
Кажушок убогі,
Чуць прыкрыты целы.

Ззаду ледзь ступае,
Хлеб вязе кабыла;
Нукае, гукае
На яе Кірыла...

Ярка сьвеціць сонцэ,
Ліст не скалыхнецца;
Горача бяз конца,
Пот на землю льецца.

Срэбрам адлівае,
Як люстэрка, Нёман.
З ранку не сціхае
Над вадою гоман.

Толькі крыкі чуеш:
„Вазьмі на „барбару“!
„Чаму не тарнуеш?!
„Гад! пабью ўсю хару!

„Закідай шырыгу!
„Папхні прысам ў ліва!
„Варушыся, падла,
„Ня сьпі ў шапку! жыва!“

І заднік без толку
Па плыту летае;
Згубіў ўсю знароўку—
Не ў той бок трымае.

Гнецца плыт дугою,
Ў бераг яго клоніць;
Быстраю вадою,
Як вужаку, ломіць.

Вось, на мель ўзагналі.
Крык, сярдіты голас.
Порткі паскідалі,
Ўсе ў вадзе па пояс.

Бомы ўсе пабралі.
„Рразам, хлопцы! рразам!
„Ну, ешчэ! што сталі?
„Ну, ешчэ прыляжэм!“

Вецер загуляе —
Хвойнік, лозы гнуцца;
Плытнік спачывае,
Як сабака ў будцэ.

Гнецца плытнік ў полі,
Мёрзне ён у холад;
Знае ён нядолю,
Знае ён і голад.

Што ж? беднота гоніць!
Толькі сілы траціш;
Толькі косьці ломіць,
Як хваробу хваціш...

* * *

Эх, ты доля, доля!
Голад ты, беднота!
Не свая тут воля,
Не свая ахвота!..

## ДОЛЯ БАТРАЧКІ.

Маці ў службу выпраўляе
Родную дзяціну
І украдкам выцірае
Горкую сьлязіну.
—„Будзь паслушна ты, дачушка“, —
Навучае матка:
„Дагаджай чужым ты, служка,
Ды цярпі, дзіцятка!
Не адзін раз твае вочкі
Заплывуць сьлязою;
Твая доля цямней ночкі, —
Цяжка быць слугою!
Не уважыць чужаніца
Ручэк тваіх белых;
Поту вырьецца крыніца
З шчочэк загарэлых.
Леткам ўстанеш раней зоркі,
Перша пойдзеш ў поле...
Ох, дачушка, хлеб твой горкі,
Горка твая доля!“ —
Маці дочку развражае,
Сябе цешыць стара;
Жаль ёй к сэрцу падступае,
Як бы тая хмара. —
Вось, дзяўчына ўжо гатова,
Пакідае хатку.
—„Ну, матулька, будзь здарова!“
І цалуе матку.

Вышла маці ў сьлед за ёю,
Стала пры парогу
І, падпёршы твар рукою,
Глядзіць на дарогу.
Доўга матка ўсё глядзела,
Доўга паглядала, —
Покі Ганны хустка бела
З вачэй не прапала...

## ЗА ПАДАТКІ.

Колькі ўжо раз за падаткі
Стараста пужае!
Ой, нехай іх,—горка з імі,
Хто таго ня знае?! —
Аж тут пісар прыежджае
Разам з старшынёю...
Ой, нічога не парадзіш
З горкою бядою.
—Пачэкайце, залатые! —
Бух ім я у ногі!
А назаўтра я Красульку
Пацягнуў за рогі.
Зарыкала так жалобна
Бедная жывёла
І мне сэрцэ немым рыкам,
Як нажом, парола.
Жонка плачэ у качэргах;
Гэтак па дзіцяці,
Ззаду за труной ідучы,
Толькі плачэ маці...
Я йшоў з боку,—і здушылі
Горла мне залозы!
Выйшоў ў поле,—паліліся
З вачэй самі сьлёзы.

## НА ПРАДВЕСЬНІ.

Эх, напёрла ліха — горэ!
Ні сеніны, ні зерна;
А тут сьнег ешчэ ня скора
Згоніць цёплая весна!
    У кішэні — ні грашынкі,
    Хата поўная дзятвы!
    Ні паленца, ні лучынкі, —
    Хоць у землю лезь жывы!
Папалілі, пераелі, —
Нічагутка ані ў зуб!
Хлеба толькі да нядзелі,
На два разы ўсяго круп!
    А даўгоў ты нахватаўся!
    Таму дзесяць, таму пяць...
    Вось, гдзе, Грышка, ты папаўся,
    Чым ты будзеш аддаваць?
Эх, напёрла ліха Грышку!
Рук німа за што зацяць...
Хіба выпьем па кілішку,
Лягчэй будзе гарэваць!..

## ПАНАС ГУЛЯЕ.

Што мне жонка! што мне дзеці?!
Эх, Панас, ва ўсё гуляй!
Ё шчэ мерка жыта ў клеці,
Хаім! піва падавай!
    Наплевать мне на падатак,
    Што мне земскі, старшыня!
    Хаім! люльку на ў задатак,—
    Дай мне белага віна,
Дай мне булку на поўзлоты,
Ды прыпраў мне селедца!
Усё прапью: халат і боты...
Пачынай, Панас, с канца!
    Вот ідзе Панас, сьпевае,
    Страшыць жонку і дзяцей.
    Кулаком усім махае,
    Пабудзіў усіх людзей.
Дома ён разбушэваўся.
Дзед аборку ўжо прыпас...
Пад сталом ноч пракачаўся
Пьяны, зьвязаны Панас.

## МУЖЫК.

Я — мужычы сынок.
Ні двара, ні кала!
Поле — жоўты пясок,
Хата ў землю вайшла.
Не жыву, а гнію,
Прападаю як мыш...
Глянь на долю маю,
Глянь на цяжкі мой крыж!
Я балоты сушу;
Надрываю жывот;
За безцэнак кашу,
Рыю землю, як крот.
Усе вуглы і куты
Сваім целам я змёў.
Ссек я лес і кусты
І дарогі правёў;
Ды ня ежджу па іх, —
А хаджу пехатой
Ў рваных ботах старых,
Часьцей босай нагой.
Збудаваў я палац,
Многа фабрык, мастоў;
Сам жэ голы, як бац, —
Пары дзьве лахманоў.
Пад ваконьнем не раз
Я з мяшэчкам хадзіў,
Міласьціны у вас
Хрыстом Богам прасіў,

Вы-ж у торбу маю
Клалі чэрствы кусок;
Замест рыбы — зьмяю
З сьмехам клалі ў мяшок.
Мяне мочыць раса,
Мяне сонцэ пячэ,
І у песьнях маіх
Сьлеза ціха цячэ.
Я па сьвеці хадзіў,
Усюды косьці пранёс,
Я на землю праліў
Многа сьлёз, многа сьлёз!
То ня дуб у бары
Заскрыпеў, застагнаў:
Гэта я без пары
Богу душу аддаў.
Нудна звоняць званы,
То мацней, то замруць;
Адзін дзяк ля труны, —
Гэта гроб мой нясуць...
На магілцы маей
Крыж трухлявы стаіць,
А над прахам касьцей
Вольны вецер шуміць...
Я мужычы сынок,
Я ня маю дарог.
Мая школка—шынок,
Маё жыцьце — астрог!

## ПАХАВАНЬНЕ.

Чую звон я нудны,
Рэдкі, невясёлы,
Дзень сягодня будны, —
Не сьвяткуюць сёлы.
    Чую прычытаньне,
    Чую плач я нейчы.
    Скончыўся заранье
    Век твой, чэлавечэ!
Вось, труну я бачу,
Кучка йдзе народа,
Колькі жалю, плачу!
Жонцэ мужа шкода,
    Мужа маладога,
    Добраго Рыгора,
    І сабе у Бога
    Просіць сьмерці з гора...
Сёстры плачуць горка
Буйнымі сьлязамі:
„Ой, Рыгор, Рыгорка,
„Што зрабіў ты з намі?“
    Двое дзетак с краю —
    Бедные сіроткі!
    Цяжка будзе, знаю,
    Вам, мае блазноткі!
З-заду дзед сагнуўся, —
Нудна, жаль старому.
Падыйшоў, вярнуўся
Скора поп да дому,

Бабы галасілі,
Дзед стары крывіўся...
Ў вадзін звон званілі,
Адзін дзяк маліўся.
О, мой братка родны!
О, мужык ты бедны!
Ўсё жыцьцё галодны,
Худы, чорны, бледны!
Хто цябе уважыць?
Хто цябе шкадуе?
Хто за стол пасадзіць,
Чаркай пачастуе?
Біўся ты, як рыба,
Хвілі ты ня ўседзіш...
На тым сьвеці хіба
Шчасьце ты угледзіш!
Памёр — мала знаку.
Адзін звон пазвоніць.
Ў яму небараку
Кінуць, пахароняць.
Сумна і ціхутка...
Могілкі с крыжамі.
Круцяцца блізютка
Каўкі над палямі.
Жаль скаваў мне грудзі,
І нуда напала...
Каб вы зналі, людзі,
Як мне цяжка стала!

## НАША ДОЛЯ.

Наша доля нас ня знае,
Наша жыцьце — адна цьма;
Ў летку жар нас данімае,
Цісьне холадам зіма.
Не красуе наша ніва,
Луг ня цешыць нам вачэй.
Гне к зямлі нас праца жыва,
Гоніць ў могілкі дзяцей.
Наша песьня невясёла...
Ноч і цьма на нас ляглі.
Нашы хаты, вёскі, сёлы
Сівым мохам абрасьлі.
Нашы сьлёзы нешчысьлёны,
З нас крывавы льецца пот...
Люд забіты, люд хрышчоны,
Абяздолены народ!..

*
* *

Мы ходзім спатыкаемся,
Бадзяемся, як пьяные;
Мы з голадам зрадніліся,
Худые, абарваные.
    Асьмеяны, аблаяны,
    Гразёю мы абмазаны,
    Багатымі мы скрыўджэны,
    Няволею мы звязаны.
У балоты мы адціснуты,
Загнаны мы у шчыліны;
І вочы нам завязаны,
І вушы нам зачынены.
    Адно мы добра ведаем:
    Хоць вечна мы блукаемся,
    А ўсё-ж такі, хоць некалі,
    А праўды дапытаемся.

## НА РОЗСТАНІ.

Ты скажы мне, цьма глухая:
Доўга будзеш ты ляжаць?
Доўга будзе думка злая
Сэрцэ жалем калыхаць?..
Не шумі ты, лес высокі,
Нудных песень не сьпевай;
Дзён шчасьліўшых, дзён далёкіх
Ты мне, лес, не ўспамінай!
Не відаць мае дарогі...
Горы, лес, балоты, гразь...
Колькі смутку і трывогі
Ў гэты цяжкі нудны час!
Гдзе-ж, дарога, ты другая?
Я стаю адзін, адзін...
Поч ляжыць кругом глухая.
Ці-ж то сьвет зыйшоў у клін?
Ты скажы мне, цьма глухая:
Доўга будзеш ты ляжаць?
Доўга будзе думка злая
Сэрцэ жалем калыхаць?

## НА МЕЖЫ.

*(Перэд новым 1909 годам).*

Бывай здароў, мой год старэнькі!
Ў маіх ты думках будзеш жыць
І многа будзеш майму сэрцу
Ў мінуту жалю гаварыць.
Я буду помніць, доўга помніць
Свае бадзяньне ў гэты год,
Свае надзеі і сумленьня
За родны край, за свой народ —
І тых людзей, што шлі са мною,
Хто зваў на працу, дух будзіў,
Хто весяліў мяне у смутку,
Каго я шчыра палюбіў...
Дык будзь здароў, мой год старэнькі!
Ў маей душы ты будзеш жыць
І многа будзеш майму сэрцу
Ў мінуту жалю гаварыць.

## ПЕСЬНЯР.

Кажуць людзі: „Што ты смутны?
„Што сьпеваеш ўсё пра горэ?
„Твае песьні — стогн пакутны,
„Сьлёзы ветра на прасторы!
„Ты злажы нам песьню волі,
„Песьняй шчасьця залівайся!
„Ціхім сьпевам нівы ў полі
„Ў струнах сэрца адклікайся,
„Каб весна на нас дыхала,
„Грэла душу цеплатою, —
„Каб нам сэрцэ сагрэвала
„Ціхім шчасьцем, дабратою“...
— Ой, вы людзі! Німа-ж волі:
Скуты мысьлі ланцухамі,
Пусты нівы нашы ў полі,
Злосны віхар дзьме над намі!
Ці-ж я сэрцэм не балею?
Ці-ж мне смутак лёгка даўся?!
Я сьпеваю, як умею, —
Я пра радасць пець ня здаўся.

## ПАД ШУМ ВЕТРА.

Праляцела борзда лета,
Наша сьветлая пара.
На дарозе нашай вузкай,
Як раней, стаіць гара...
    Скора, скора дуне холад,
    Сьнег пасыпе з сініх хмар;
    Зноў мароз надыйдзе люты,
    І клубком паваліць пар.
Разам з ветрам, халадамі
Думак рой к нам наляціць,
Нудных думак, неспакойных
Сэрца беднае сушыць.
    Будуць ветры за вугламі
    Выць і плакаць і стагнаць,
    А у вечэр доўгі, цёмны
    Песьні ў коміне сьпеваць.
Бор стары завые нудна,
Зашуміць кругом лаза...
Пад іх шум не раз на сэрца
Капне горкая сьлеза.

## ХМАРЫ.

Як ліхіе думкі-мысьлі,
Над зямлёю хмары звісьлі.
Ой, вы, хмары! што вы сталі?
Што вы неба нам заслалі?
Скрылі сонцэ, чэрадою
Таўчэцёся над зямлёю?
Чаму ў летку над палямі
Не ліліся вы сьлезамі?
— А нас ветры так сушылі!—
Чаму збожа не мачылі?
Як гарэлі нашы нівы,
Тагды, хмары, гдзе былі вы?
Мы на неба пазіралі,
Вокам, хмары, вас шукалі.
Сохла праца наша ў полі...
— Як мы, хмары, вы—без волі!

## НЯГОДА.

*(Афяруецца А. Уласову).*

Мы чэкалі нецярпліва
Лета, цёплых, ясных дзён,
Каб ня гнулась наша ніва,
Не глушыў яе драсён.
    Хмурна-ж нашэ, хмурна лета!..
    Хмар дажджлівых валакно.
    Сонцэм поле не сагрэта,
    Дробны дождж сячэ ў вакно.
Затапілась сенажатка, —
Верх травы адно відаць.
Збожэ ў полі гіне, братка,
Німа сілы працаваць.
    Вось Ільля ўжо недалёка,
    Жаць пара, пара касіць.
    Дарма ў неба глядзіць вока —
    Хмар густых ім не прабіць.
Перакідаем мы лета...
Гэй, Карусь, брат! не памрэм!
Час, брат, будзе — вер у гэта —
З верхам працу сабярэм!

## БРАТОМ-ЗГНАННІКОМ.

Гэй, вы, смутные!
Гэй, вы, бедные,
Мае мілые
Сябры — згнанныкі!

Ці вы сіраты
У сямьі людзкой,
Што глядзяць на вас
Вокам ворагоў?

Ці разбоем вы
Даставалі хлеб,
Што караюць вас
Горш за злодзеёў?

Ці у вас німа
Сілы, розума,
Што прытулкі вам
Усе зачынены?

Ці то сэрцэ ў вас
Цьвярдзей каменя,
Што ад вас браты
Адрэкаюцца?

Не! душа у вас,
Сэрцэ—добрые,
Думкі чыстые,
Мысьлі ясные!

Толькі вам німа
Долі, радасьці;
Сіла цёмная
Вас прыціснула...

Гэй, вы, бедные
Сябры — згнаннікі!
Да канца, браты,
Будзьма цьвёрдымі!

## СЯБРОМ.

Ой, вы, сябры маі мілы,
Гдзе цяпер вы, дарагіе?
Ці схавалі свае сілы?
Ці ёсць думкі маладые?
        Тые думкі, тые мысьлі,
        Што нам душу валнавалі,
        З-за каторых хмары звісьлі,
        За што з нівы нас сарвалі?
Нас з народнай благой нівы
Разагналі па ўсім сьвеце...
Ці здаровы вы, ці жывы?
Гдзе вы, хлопцы? адгукнеце!
        Ці збярэмся зноў калі мы
        Ў нашым бедным родным краю,
        Як бы птушкі пасьля зімы?
        Гдзе вы, хлопцы? я гукаю!
Не, ня праўда! быць ня можэ,
Каб ня грэла цёпла сонцэ.
Наша праўда нам паможэ —
Блісьне сьвет і к нам ў ваконцэ!

## НЕ БЯДУЙ!..

Не бядуй, што сонцэ нізка,
Што праходзіць нудны дзень;
Не бядуй, што восень блізка
І легла на землю цень.
Не бядуй што сьнег халодны
Скрые землю ад вачэй:
Не загіне край твой родны
Ў цемнаце ліхіх начэй!
Будзе час, і сьнег растане,
Прыйдзе к нам ізноў весна;
Ціха з неба сонцэ гляне,
Ачуняе старана!
Не бядуй, што цяжка стала
Жыць у вечнай цемнаце,
Што нас доля вечна гнала,
Што жывём у беднаце.
Не бядуй, што звісьлі хмары,
Што і сонца не відаць;
Не бядуй. што ў ноч пажары
Сталі неба залівацъ...
— Пойдзе дымам ўсё ліхое,
Усё, што душыць нас і гне!
Вер, што жыцьце залатое
Будзе ў нашай старане!

*
* *

Толькі стогне зямля,
Толькі вецер шуміць;
А у бедным краю
Ўсюды ночка ляжыць.
Што ж? Сьцяліся, туман,
Покі восень стаіць:
Восень — сьвята твае,
Ўсюды цемень ляжыць.
Не маўчыж ты, сава,
Ў цёмным лесе гукай!
Ведай: ночка — ня год,
Заварушыцца гай...

*
*   *

Што вы, хлопцы, пахмурнелі,
Як каго вы пахавалі?
Ці нешчасьця вас здалелі,
Ці вас думкі сканавалі?

Плюньце, хлопцы! Засьпеваймо,
Аж каб вокны задрыжалі!
Ва ўсе грудзі загукаймо,
Каб ўсе думкі паўцекалі!
Ці-ж мы будзем вечна гнуцца,
Апускаць ў нядолі рукі? —
Нехай сьлёзы больш ня льюцца!
Нехай нас ня знаюць мукі!

За работу жыва, жыва!
Каб нас доля не кідала,
Каб ня сохла наша ніва,
Каб нуда нас не чэпала!

## С ТУРМЫ.

Цесна мне тут, горка мне,
Просіць сэрцэ волі;
Плачуць думкі па вясне,
Хочуць лепшай долі...
Гой, ты, лес, хваёвы бор,
Бор густы, высокі!
Неба сіняго прастор,
Стэп яго шырокі!
К вам хачу я, каб забыць
Усе мае нягоды
І свой голас разам зліць
С песьнямі прыроды.
Люб мне поўдзень, ціпына
Раніцы прахладнай,
Крык у небі каршуна
Ў высі неагляднай;
Луг шырокі над рэкой,
Дубы і паляны...
Рвуся к вам я ўсей душой,
Родные курганы!...
Гой, ты, лес, зялёны бор,
Бор густы высокі!
Неба сіняго прастор,
Стэп яго шырокі!

## ТУРЭМНАЯ КАМЕРА.

Цесна камера, як клетка —
Вузкі ход прамеж двух нар;
Пры вакне—жалеза сетка,
Над дзьверамі календар,
    Пісан вуглем ў два радочкі,
    Ды „буфэт“ с пяці дасок.
    Ў павуцьці усе куточкі,
    Ў пыле кожны вугалок.
Два ваконцы, дзьве рашоткі,
Два цэбэркі для вады;
Столік вузкі і кароткі,
Сеннікі у два рады.
    Абабіт пабел усюды,
    А праз столь цячэ вада.
    Ў закарвашках зьвярок руды—
    Клоп і ўсякая брыда.
Пахне потам чэлавечым...
Сперты воздух, кіслы дух.
Устанем рана — дыхнуць нечым,
Проста вешай хоць абух.

## КАТАРЖНІКІ.

Цесны дворык, непрыгожа!
Дзьверы пад замкамі;
У тры сажні агарожа, —
Глуха, як у ямі.
Толькі бразгаюць кайданы
Дзікім бразгатаньнем;
Звон пакутны, звон паганы
Аддае стагнаньнем.
Будзіць звон той боль у сэрцы,
Смутак наганяе.
Цяжка людзям ў паняверцы,
Доля іх ліхая!

. . . . . . . . . . .

Сьвеціць сонцэ, жарам пышэ,
У небі ні хмурынкі,
Лёгкі ветрык сад калышэ,
Гойдае галінкі
Ды жартліва ў двор ўлетае,
Накурыць, напыліць;
Пух у гору падымае,
Кветачку пахіліць.
Прабяжыць і ціха стане.
Звякаюць кайданы.
Збілісь ў кучу катаржане,
Від іх змардаваны.
Вось на лаўку яны селі,
Голавы спусьцілі.
Думкі моцна іх здалелі,

Сэрцэ засмуцілі.
Не згадаць іх дум маўчлівых,
Гдзе яны іх носяць:
Мо' гуляюць там, на нівах,
А мо волі просяць...
Катаржане-хлебаробы,
Дзеці вёскі, поля.
Таго бойка з-за худобы
Прывела ў няволю;
Той с суседам пасварыўся,
Ў таго зяць паганы;
Іншы, з братам як дзяліўся,
Зарабіў кайданы;
Той за нороў свой сярдзіты,
Ці за лішэк жара...
Гэта—цёмны люд, забіты,
Беднаты ахвяра.

. . . . . . . . . . . . . .

Што за думкі? не згадаю;
Цёмна іх гаворка;
Адно толькі добра знаю:
Горка людзям, горка!

## У ВАСТРОЗЕ.

Нудна Сьцёпцы за рашоткай,
Нудна, эх, старому!
Плачуць думкі, рвуцца думкі
Сьцёпкавы да дому.
Дома жонка, дома дзеткі...
Бог сьвяты іх знае,
Як жывецца небаракам
Там у родным краю!
Ходзіць Сьцёпка з вугла ў вугал,
Гляне у ваконцэ:
За рашоткай відаць неба,
Хмарак валаконцы.
Эй, хмарынкі, плывецё вы
У старонку тую,
Гдзе пакінуў я сямейку,
Хатачку старую!
Ох, паплыў бы я, здаецца,
Хмаркі, разам з вамі,
Каб на вёску сваю глянуць
Нуднымі вачамі.
Там, далёка, за дамамі
Разляглося поле,
Лес—гаёчэк, дол, курганы...
Эх, прастор там, воля!
А у полі дым сінее —
Бульбу люд капае;
Сьцёпка ж бедны так марнее,
Долю праклінае...

Ляжэ Сьцёпка спаць на нары
І праз цэлу ночку
Ўсё аб роднай вёсцы сьніцца,
Аб родным куточку.
Нудна Сьцёпцы за рашоткай,
Нудна, эх, старому!
Плачуць думкі, рвуцца думкі
Сьцёпкавы да дому.

## СОН У ТУРМЕ.

Рана Сьцёпка прабудзіўся
І ляжыць — ня сьпіцца:
Сон яму такі прысьніўся —
Люба падзівіцца!
    Бытцам жыта сеяць вышлі
    У поле пры дарозі
    (Сьцёпцы нават зышло з мысьлі,
    Што ён у вастрозі).
Поле сонцэм скрозь заліта, —
Шырыня, раўніна!
Як-бы тукам глеба зліта;
Чорназём, ды гліна.
    Не дакінеш проста вокам
    Да суседзкай межы,
    А на лузі іх шырокім
    Стогі—як-бы вежы!
Ўсе суседзі тут у полі
Ходзяць с карабкамі,
Сеюць жыта на прывольлі,
Рэжуць дол плугамі,
    Робяць гоні і разоркі...
    Ветрык ціха вее.
    Трохі оддаль, на прыгорку,
    Вёска іх чарнее.
З-за мужычых хат адметна
Меж гумён, адрынак
Пазірае так прыветна
Сьцёпкі ўвесь будынак...

Углыбіўся Сьцёпка ў мары,
Думцэ ўвесь аддаўся, —
Пра вастрог забыў, пра нары,
Гдзе ўсю ноч валяўся,
Тут ён целам, там—душою,
Там, ў родным полю,
Гдзе хадзіў ён за сахою,
Гдзе пазнаў нядолю...
Ды забыта ўсё ліхое,
Усё, што дух смуціла, —
Асталося дарагое,
Што так сэрцу міла!

. . . . . . . . . . . . .

Але скора разсьветала —
Нудны дзень вярнуўся;
Сон і мары — ўсё прапала,
Як астрог прачнуўся...

## ПІСЬМО С ТУРМЫ.

— Напішы мне, калі ласка,
Пісямко да хаты!
Пішэ з дому мне Параска,
Што сын здан ў салдаты...
Охо-хо! Пракоп ўздыхае
Ў смутку і ў кручыні;
Белы ліст ў руках трымае
І канвэрцік сіні.
Просіць шчыра грамацея,
Нават шапку скінуў;
Сам Пракоп пісаць ня ўмее, —
Гдзе-ж, ў бядноці гінуў;
Вырас ў вёсцы на мякіне,
Жыў с худобай з малку,
Цімар жыцьця знёс на сьпіне,
Высох ўвесь у палку;
У астатку, вось, папаўся
Ў спісак арыштанцкі,
За то, бытцам, што збіраўся
Лес падкурыць панскі.
—Што-ж табе пісаць, старэнькі?
—А пішы, нябога:
Жонка, сын мой дарагэнькі!
Шлю паклон з астрога.
Сэрцэ мне баліць, і вас я
З думак не спускаю,
Кожны божы дзень і час я
Дом свой ўспамінаю.

Жонка мая дарагая!
Ты ня скрыўдзь Івана.
Калі грошэй не хватае,
Пазыч у Сьцепана;

Нехай дзядзька не баіцца —
Аддамо с падзякай. —
Хлопцу-ж трэба хоць акрыцца,
А ня йсьці сабакай.

Спраў кажух яму і боты,
Выпраў, як і людзі,
Дай с сабою колькі злоты —
Весялейшы будзе...

Калі досыць корму маеш,
Падкармі больш сьвінку,
Мо' якую захаваеш
На вялікдзень шынку;

А калі на грош нехватка,
Або корму мала, —
Закалі і с поўдзесятка
Хунтоў прышлі сала...

Сын мой! Снасьці рыбаковы
Добра ты прыпратай, --
Згодзяцца; а венцер новы —
Маеш час—залатай;

І ешчэ, мой сын, прашу я,
Човен кінь ў адрыне,
Нехай вецер не сьвідруе,
Нехай так ня гіне.

Ўсё, што можна, захавайце,
Пакуль я вярнуся.
Нераток стары аддайце
Міхалю з Габрусем.
Кнігі ўсе, апроч псалтыра,
Вы аддайце Грышку,
Нехай іх чытае шчыра,
Бо ён любіць кніжку...
Дарагі мой сын! прад здачэй
Да мяне зайдзі ты.
Бо мо больш і не убачу,
Не пачую, гдзе ты.
Не маркоцьцесь, не бядуйце,—
Дасць Бог спосаб новы.
Што-ж ты зробіш? пагаруйце...
Будзьце ўсе здаровы! —

## ДУМКІ У ТУРМЕ.

Сохну марне я ў вастрозі,
Дарма трачу сілы;
Рвецца дух мой на свабоду
Із турмы — магілы...
    Шкода хаткі мне старэнькай
    З латанай стрэхою,
    Што над Нёмнам пахілілась
    Горкай сіратою;
Шкода мне зялёнай нівы,
Што шуміць у полі,
Тóга дуба, што над рэчкай
Карэніцца ў долі;
    Шкода мне гаёў раздольных
    І лугоў прастора,
    Гдзе пад ветрам хваля ходзіць
    Травянога мора;
Шкода сьветлай ручаінкі
У берагох песчаных,
Што, як срэбра, быстра льецца
Прамеж гор курганоў;
    Шкода вёсак запусьцелых,
    Гдзе мужык гаруе,
    Гдзе зімою вецер вее,
    Кудаса шнуруе...
Гэта — образы краіны
Беларусі роднай...
Край ты, край мой! міл ты сэрцу,
Цёмны край, галодны!

Ды ня век жэ тут згарую:
Дачэкаю волі
І пачую ў родным краю
Песьні лепшай долі!

## КВЕТКА.

За агарожаю перэд астрогам
У ціхім куточку адна
Кветка красуе на грунце убогім,
Хараша зьяе яна.
Двор непрытульны і глеба песчана,
Грунт весь убіты, як ток.
Сонцэ ня сьвеціць скрось шчэлін паркана,
Выдзьмухаў вецер весь сок...
Белая крошка роскаю божай
Чыста абмые, зяхціць.
Рад любавацца я кветкай прыгожай,—
Міла яна так глядзіць.
Мне ўспамінаюцца образы мілые
Роднаго краю, палёў,
Бедные вёскі, хаты пахілые,
Песьні зялёных гаёў;
Вузкіе стужкі меж зеляненькіх,
Жыта палоска, лянок...
Рэчы пявучые нівы благэнькай,
Узгорак, курганчык, лясок,
Толькіж мне шкода кветкі: сіроткай
Ціха схілілась яна
За агарожаю, як за рашоткай,
Сонцу, людзям не відна...
Мілая кветка, дзіцятка поля,
Межы зялёнай убор!
Як ты папалася з волі у няволю?
Як занясласся на двор?

## С ПЕСЕНЬ ВАСТРОЖНІКА.

Ліпы старые шумяць за сьцяною,
Жаласна, глуха шумяць;
Нудна ківаюць яны галавою,
Нудна галіны скрыпяць.
Пышны убор іх — лісты пазрываны,
Віхр іх развеяў, разнёс;
Белым марозам галіны затканы,
Сьнег іх глыбока занёс.
Плачуць безлістые ліпы старые,
Плачуць на долю сваю:
„Пышна расьлі мы, цьвялі, маладые,
Добра было у гаю!
Вольные птушкі вакруг шчэбеталі,
Божые пчолку гулі;
Вязы таўстые ад буры хавалі,
Дубы нам сеткі плялі.
Белые хмаркі па небі гулялі,
Беглі ў няведамы край;
Частые росы, як срэбра, бліпчалі,
Гоманам поўніўся гай...
Нас перанесьлі на глебу чужую,
Сьвету, прастору німа;
Ўсе нас забылі, ніхто нас ня чуе,
Чуе нас толькі турма!
Там бы хацелась расьці, красавацца,
Дол дзе капае ральнік,
Родную песьню дзе ціха сьпевае
Сын Беларусі — мужык!“...

## ГУСІ.

Зоры далёкіе, зоры бліскучые
Ціха гарацъ над зямлёй.
Крыкі знаёмые, крыкі пявучые
Льюцца вячэрняй парой.
С поўначы холада, сівера буйнаго
Гусі на поўдзень лецяць;
З неба далёкаго—стэпу лазурнаго
Нудна прашчаньне крычаць.
Дзікіе гусанькі, птушачкі вольные,
Весьнікі скорай зімы,
Хочэцца з вамі мне ў стэпы пра-
[сторные
К сьвету і сонцу ад цьмы!
Толькіж падрэзаны скрыдлы свабо-
[дные
Моцна пільнуюць мяне —
Дзьверы акутые, сьцены халодные,
Краты з жалеза ў вакне.

## ХМАРЫ.

Хмары, хмары, што па небі
Носіцесь гарамі, —
Каб меў скрыдлы, паляцеў-бы
Я на волю з вамі!..
Я ляцей-бы ў край той родны,
Гдзе так сэрцу міла,
Гдзе я вырас, гзе мне радасьць
Маладасьць суліла.
Паляцеў-бы ў луг, гдзе Нёман
Бэрэг точыць, мые,
Гдзе гамоняць з вецеркамі
Дубы векавые;
Гдзе над Нёманам старая
Прыхінулась хата,
Гдзе так многа пылу ў летку,
Гдзе пяскоў багата.
Паляцеў-бы к тым курганам,
Што стаяць маўчліва,
К тым узгоркам, гдзе вясною
Зелянее ніва!
Ой, панёсся-б з вамі, хмары,
Я ў той лес цяністы,
Лёгка гдзе ўдыхаюць гвудзі
Хвоі пах смалісты!
Хмары, хмары, што па небі
Носіцесь гарамі, —
Каб мне скрыдлы, паляцеў-бы
Я на волю з вамі!

## МАЦІ.

Непрыветна цераз вокны
Ночка пазірае.
Ціха ў хаці — ўся сямейка
Сьпіць ды спачывае,
Натрудзіўшы добра рукі,
Натаміўшы плечы.
Толькі матка з вераценцэм
Прытулілась к печы
І прадзе, прадзе кудзельку.
Скачэ вараценцэ,
А за ім густые цені
Бегаюць па сьценцэ. —

* * *

На камінку корч пылае,
Злотам іскры скачуць.
За ваконцам вецер ходзіць,
Глуха вербы плачуць.
Зябнуць вербы на марозі,
Прытуліўшысь к стрэсі,
Сьнегам вецер сыпле ў дзверы;
Ходзіць шум па лесі...
І пад гэты шум трывожны
Думае старая,
А ў сьлед думкам неспакойна
Вецер падпевае.

* * *

Усё прачнулось прэд вачыма
Беднае кабеты:

Маладые дні дзяціны,
Дзявочые леты,
Радасьць жыцьця і нягоды,
Сваркі, трасяніны —
Ўсё, чым жыцьцё спатыкае
Цяжкую часіну,
Усё прыпомнілась старэнькай.
Горка беднай стала, —
Галаву на грудзь схіліла.
Прасьці перэстала.

* * *

Муж — нябошчык ўсплыў на думку—
Рана сьмерць скасіла!
Дробных дзетак ён пакінуў...
Без пары магіла.
Жыў ён бедна. Спадзеваўся
Свой прыдбаць куточэк:
Хату вывясьці, зямелькі
Прыкупіць шматочэк.
Бо агоркнуў хлеб батрацкі,
Жыцьцё пад'ярэмна...
Ды ня выйшоў с пад няволі,
Біўся век дарэмна.

* * *

Гасьне корчык на камінку.
Пацямнела ў хаце.
Поўнач пеўні пракрычалі,
Ды ня сьпіць ўсё маці.
Цягне нітку. Вераценцэ
З рук упаўшы грукне.

Ды нясьмела, як убогі,
Вецер ў дзьверы стукне.
Думкі думку падганяюць,
Не даюць спакою:
Усё летаюць над кабетай
Нуднай чэрадою.

*
* *

Уздыхнула цяжка матка.
Аб сынку гадае,
Што ў турме, у паняверцы
Кару адбывае.
І за што? У толк ня возьме
Бедная кабета
Ні законоў гэтых мудрых
Ні парадкоў сьвета...

*
* *

Вецер вые за вуглямі,
Ў коміне галосіць.
Куды толькі думка тая
Матку не заносіць?
Зябнуць вербы на марозі,
Глуха лес гамоніць.
Думка думку выклікае,
Думка думку гоніць.

## РОДНЫЕ АБРАЗЫ.

Образы мілые роднаго края
    Смутак і радасць мая!
Што маё сэрцэ да вас парывае?
    Чым так прыкованы я
К вам, мае ўзгорачкі роднаго поля,
    Рэчкі, курганы, лясы,
Поўные смутку і жальбы нядолі,
    Поўные сумнай красы?
Толькі я лягу і вочы закрыю,
    Бачу я вас прэд сабой:
Ціха праходзіце вы, як жывые,
    Зьяючы мілай красой.
Чуецца говар мне сьпелае нівы,
    Ціхая жальба палёў,
Леса высокаго гоман шчасьлівы,
    Песьня магучых дубоў...
Образы мілые, образы смутные,
    Родные вёскі і люд!
Песьні цягучые, песьні пакутные!
    Бачу і чую вас тут!

## ВЯЧЭРНІЕ ХМАРКІ.

Сонейко заходзіць,
І кладуцца цені,
І плывуць хмурынкі
Ў ціхім задуменьні.
Белые валокны
Сонейкам заліты.
Вольны ім дарогі,
Сьцежкі ім адкрыты.
Хмаркі залатые!
Вы — прастора дзеці;
Ходзіце вы вечна
Па ўсім белым сьвеці.
Праплывеце-ж, хмаркі,
І над родным краем,
Над мужычым полем,
Над зялёным гаем.
І заплачце хмаркі,
Над мужычай нівай,
Над яго лугамі.
Загрыміце громам,
Стаўшы цёмнай хмарай,
Толькі не пабійце
Збожа градам, бурай...
Хмаркі залатые,
Сонца, неба дзеці!
Вы прывет мой шчыры
Ў вёску занясеце!

## ПЕСЬНЯ НЯВОЛІ.

Як лёгкі дым, як тонкі пар,
Расталі ў небе кучы хмар...
Ой, неба гладзь далёкая,
Крыштальная, глыбокая!
Як моцны гук, прызыў вясны
С тваей пачуўся вышыны!
Прастор, прастор і воля там,
Але не нам яны, не нам!
Запёрты мы, прыдаўлены.
Рашоткі нам пастаўлены.
Высок, высок паркан—сьцена,
Нам песьня волі не чутна
Не нам вясны прастор, лучы...
Ня бійся, сэрцэ, і маўчы.
Ў няволі годы адцьвітуць...
Не плач, душа! ня рвіся грудзь!

## Ў ТУРМЕ ВЯСНОЙ.

Сьціхлі песьні зімнай буры,
Вее цеплатою,
Ўскалыхнуўся лес панура,
Зашумеў вясною.
Як бы снуджэные козы,
Ўсе разбеглісь хмары.
Плачэ зімка, льюцца сьлёзы,
Ажываюць яры.
Скора поле лугавіны
Ў зелень убяруцца;
Жураўлі с чужой краіны
С крыкам пранясуцца,
Ўстануць хмары, і пяруны
Гучна загамоняць;
А ў турме тут сэрца струны
Горэсна зазвоняць.
І ўздыхнеш, ўздыхнеш глыбока
Над жыцьцём разьбітым,
І пачуеш адзінокім
Ты сябе, забытым!

## У ТУРМЕ.

Сонцэ ўстане, сонцэ зайдзе,
Дзень заменіць ночкі цьма,
А над намі чорнай хмарай
Вісьне цесная турма.
    Птушкі вылятуць на зіму,
    Птушкі зноў лятуць сюды,
    А мы томімся ў вастрозе,
    Трацім лепшые гады.
Дні праходзяць, дні праходзяць,
Летам зьменіцца зіма,
А мы сохнем і марнеем;
Нам тут радасьці німа.

# РЭЕСТАР.

## II. РОДНЫЯ АБРАЗЫ.



## III. МУЖЫЧАЕ ЖЫЦЬЦЁ

## IV. НА РАЗСТАНІ.



## V. С Т У Р М Ы.